*Шэдэўры смаргонскіх чыноўнікаў (стар. 2)*
*Турэмнае пытанне (стар. 2) Беларускі студэнт у Германіі (стар. 3)*



# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты СВАБОДА
Наклад 16.790
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Серада, 15 кастрычніка 1997 г. № 114 Кошт свабодны

## Мінск незадаволены, што Расія ўвяла мытны кантроль

Дадатковы мытны кантроль, арганізаваны расійскім бокам на беларуска-расійскай мяжы, мае «палітычную мэту». Такую думку выказаў паўнамоцны прадстаўнік прэзідэнта Беларусі ў інтэграцыйным камітэце СНД Васіль Даўгалёў. В.Даўгалёў лічыць, што гэтая «нечаканая мера» супярэчыць існуючым паміж Масквой і Мінскам дамоўленасцям і «патрэбная тым, каму не патрэбны Саюз Беларусі і Расіі».

*Інтэрфакс*

## Брэсцкі пантэон

**Каардынацыйны савет па ахове спадчыны пры Брэсцкім аблвыканкаме прыняў рашэнне аб выданні партрэтаў-плакатаў вядомых людзей, якія нарадзіліся на Брэстчыне.**

Сярод іх пісьменнікі, гісторыкі, рэлігійныя, партыйныя і дзяржаўныя дзеячы — каля 40 чалавек. Увогуле ж падбор персаналіяў у спісе даволі нечаканы. У "культурным" раздзеле фігуруюць славуты паэт Адам Міцкевіч, фалькларыст-музыказнаўца Рыгор Шырма і царкоўны дзеяч XVI стагоддзя Афанасій Філіповіч. А ў кола «дзяржаўных мужоў» трапілі князь Радзівіл Чорны, кароль Польшчы, каханак рускай імператрыцы Кацярыны Станіслаў Панятоўскі, а таксама Пётр Машэраў.

Партрэты-плакаты будуць выдадзеныя вялікім тыражом і распаўсюджаныя па школах, вучылішчах, ВНУ, установах культуры. Трэба адзначыць, што гэта першае падобнае выданне на Брэстчыне: раней выдаваліся толькі партрэты партыйных дзеячоў і абаронцаў Брэсцкай крэпасці.

*БелаПАН*

## Людзі гінуць на рабоце

**З пачатку года ў нашай краіне на працы загінулі 245 чалавек. Амаль палова трагічных здарэнняў прыпадае на сельскую гаспадарку.**

Між тым урад на арганізацыю аховы працы грошай не выдзяляе. Гэтае пытанне ў бюджэтнай праграме нават не разглядалася належным чынам.

Да сённяшняга часу ў заканадаўстве рэспублікі не ўрэгуляваныя паняцці бяспекі працы, што фактычна здымае адказнасць з працадаўцы. Па звестках прафсаюзаў, на 90% прадпрыемстваў не выкарыстоўваюцца сродкі бяспекі працы і спецадзенне: на гэтыя «дробязі» шкадуюць грошай. А такая эканомія часта заканчваецца трагічна.

~~Антон~~ **ГРЭЧКА**

## Бабруйск абувае немцаў

**Буйная нямецкая фірма «Дэльта» зацікавілася абуткам, які вырабляе Бабруйская абутковая фабрыка.**

Фірма замовіла фабрыцы партыю ў 20 тысяч пар, паабяцаўшы пры гэтым, што ў выпадку, калі строгія патрабаванні нямецкага боку да якасці тавару будуць выкананыя, то фірма купіць яшчэ 80 тысяч пар абутку.

**Іван ЗАСАДА**

# Улады цэляцца ў «дзесятку»

**«Праваслаўны атэіст» Аляксандр Лукашэнка загадаў «навесці парадак» у рэлігійнай сферы. З пачатку года чыноўнікі ламаюць галаву над гэтай задачай.**



*Рэдкі выпадак: побач з Лукашэнкам не толькі мітрапаліт Філарэт, але і кардынал Свёнтак.*

Нядаўна ў прэзідэнцкі парламент прыйшлі папраўкі да дзеючага закона «Аб свабодзе веравызнанняў», прынятага ў 1992 годзе. Іх суправаджае ліст палкоўніка Уладзіміра Замяталіна, які абгрунтоўвае неабходнасць увядзення новага парадку.

Як відаць з прапанаваных папраўак, зямныя ўлады збіраюцца кіраваць і на небе. Дзяржорган будзе ўтвараць сам прэзідэнт. Гэты орган будзе кантраляваць ды правяраць рэлігійныя арганізацыі. Па ягонай ініцыятыве могуць узбудзіць нават крымінальную справу. Прычым перад зямным законам адны рэлігіі атрымаюць перавагі, а іншыя — толькі абмежаванні.

Урадавыя чыноўнікі прапануюць запісаць у закон прыкметы «дэструктыўных веравызнанняў». Кіруючыся гэтымі прыкметамі, адпаведны дзяржорган будзе дазваляць або забараняць дзейнасць той ці іншай царквы або рэлігійнай арганізацыі. Калі веравучэнне заклікае да «невыканання грамадзянскага доўгу, грамадскіх, дзяржаўных і сямейных абавязкаў», то яго можна ахрысціць дэструктыўным.

Па словах прэзідэнта Беларускай канферэнцыі Адвентыстаў Сёмага Дня Івана Астроўскага, пратэстанцкая моладзь не супраць служыць у войску. Але яна на падставе Бібліі адмаўляецца забіваць чалавека. У суботу пратэстанты не выходзяць на працу. Аднак гэта ж і ёсць, згодна з папраўкамі, «невыкананне доўгу». Дэструктыўнай могуць прызнаць і тую арганізацыю, якая «агрэсіўна распаўсюджвае сваё веравучэнне». Напрыклад, калі вернікі разнясуць запрашэнні на свае евангельскія праграмы, чыноўнікам можа падацца, што распачалася агрэсія. Яшчэ адна прыкмета дэструктыўнасці заключаецца ў «разбурэнні традыцыйных духоўных каштоўнасцяў і гісторыка-культурнай спадчыны беларускага народа». Пад такі артыкул можа падпасці нават Руская праваслаўная царква.

Свецкія ўлады збіраюцца кантраляваць не толькі «дэструктыўных». Асаблівую пільнасць чыноўнікі праяўляюць да замежных святароў, якіх запрашае каталіцкая царква. У законе прапануецца запісаць, што «замежны святаранаслужыцель можа выконваць сваю місію ў Беларусі тэрмінам да трох гадоў». Пасля гэтага ўлады могуць памілаваць святара і пакінуць на большы тэрмін, а могуць і выслаць.

Прыцэліліся ўлады і ў «дзесятку». Заснаваць рэлігійную абшчыну дазваляецца толькі 25-ці вернікам, а не 10-ці, як цяпер. Гэтыя лічбы наўрад ці бяруцца з неба, бо Евангелле называе дастатковым двух ці трох вернікаў. Старшыня Саюза евангельскіх хрысціян-баптыстаў Беларусі Аляксандр Фірысюк бачыць у гэтай папраўцы «вяртанне да старых часоў». Калі ў вёсцы не набярэцца 25 вернікаў, яны ўсё адно будуць збірацца, але ўжо нелегальна ці нават падпольна. А.Фірысюк лічыць, што гэтыя папраўкі «сапсуюць» наш закон, які лічыцца больш дэмакратычным, чым расійскі.

Старшыня камісіі лукашэнкаўскай палаты "па правах чалавека" Юрый Кулакоўскі заявіў карэспандэнту СВАБОДЫ, што беларускі закон «Аб свабодзе веравызнанняў» будзе ўніфікаваны з расійскім. На ягоную думку, у прадстаўленых папраўках не хапае градацыі веравызнанняў на традыцыйныя і нетрадыцыйныя. На гэтым настойвае і Руская праваслаўная царква.

Юрый Кулакоўскі распавёў карэспандэнту СВАБОДЫ, чаму неабходна паправіць закон, спаслаўшыся на свой жыццёвы вопыт. Па ягоных словах, на пахаванні каталіка Яўгена Мікалуцкага прысутнічалі два ксяндзы, адзін з іх паляк. Паводле цяперашняга закона ён, маўляў, не меў права весці службу. Другі выпадак, які прывёў Ю.Кулакоўскі, здарыўся ў Кіраўску. Тут улады бясплатна перадалі камбінат бытавога абслугоўвання праваслаўнай царкве, а між тым дзеючы закон забараняе фінансаванне дзяржавай рэлігійных установаў.

Але найбольш трапна выказаўся па рэлігійным пытанні прэзідэнт Лукашэнка на з'ездзе настаўнікаў: *«Многіх з тых, хто трымае ў руках свечкі, я б на парог царквы не пусціў»*. Заканадаўцы цяпер шукаюць, як выканаць пажаданне бацькі — каго пускаць, а каго не.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## У сетку «ўзмоцненага рэжыму» пакуль трапляе толькі дробная «рыба»

Восем дзён мінула, як уся беларуская міліцыя, ад шэраговага ўчастковага да міністра, была паднятая на ногі ў сувязі з забойствам галоўнага магілёўскага кантралёра Яўгена Мікалуцкага і кінута на пошукі злачынцаў, пад нагамі якіх павінна «гарэць зямля».

«Узмоцнены рэжым» азначае для ўсіх міліцыянтаў працу з раніцы да позняга вечара, удзел у шматлікіх рэйдах і аперацыях, не звязаных з асноўнымі абавязкамі, якія, аднак, ніхто не адмяняў. Як сцвярджае міліцэйскае кіраўніцтва, актыўнасць пастоў, патрулёў і рэйдавых брыгад прынесла вынік. Праўда, у сетку «ўзмоцненага рэжыму» пакуль не трапіла буйная «рыба», супраць якой і распачатая гэтая кампанія, аднак, акрамя забойцаў Яўгена Мікалуцкага, існуюць і іншыя злачынцы, ад якіх трэба пазбаўляцца. Міліцыя рапартуе аб поспехах на гэтым фронце.

У прыватнасці, за 8 «узмоцненых» дзён затрымана ажно 5 тысяч 800 чалавек за дробнае хуліганства, і ўсе яны ўжо прыцягнутыя да адказнасці. (Для параўнання: за такі ж перыяд мінулага года было схоплена на дзве тысячы хуліганаў менш.) Прыкладна тое ж адбываецца і з асобамі, якія распівалі спіртныя напоі ў грамадскіх месцах альбо нецвярозымі бадзяліся па вуліцах: з 7 па 14 кастрычніка было затрымана 14 тысяч 900 такіх несвядомых грамадзянаў, у той час як у мінулым годзе іх было толькі 9 тысяч 500. Без сумневу, смерць прэзідэнцкага сябра балюча адазвалася ў сэрцах простых людзей, вось толькі, як высветлілася, не ўсе з іх здольныя хаваць свае пачуцці ад міліцыянтаў, якія сталі ў гэты адказны момант удвая больш пільнымі. Дарэчы, амаль удвая павысіла некаторыя паказчыкі і дарожная інспекцыя: калі з 7 па 14 кастрычніка 1996 года супрацоўнікамі ДАІ было затрымана 965 п'яных вадзіцеляў, то цяпер ажно 1674!

Між тым узнікае справядлівае пытанне: ці будзе міліцыя працаваць з такой жа эфектыўнасцю і надалей і чаму патрэбна была трагедыя з прэзідэнцкім кантралёрам, каб прымусіць вартавых парадку ўзяцца за справу па-сапраўднаму? Як адказваюць у міністэрстве ўнутраных справаў, «узмоцнены рэжым» праводзіцца на мяжы чалавечых магчымасцяў міліцэйскага кантынгенту. У суботу, 18 кастрычніка, усё вернецца ў звычайную каляіну, і міліцыянтам дадуць магчымасць адпачыць. А гэта значыць, што спадзе хваля рэйдаў і аблог, зноў з палёгкай уздыхнуць не толькі ўчастковыя, але і іхнія ахвяры — гандляркі цыгарэтамі ды мянялы валюты, якія цяпер трохі пахаваліся, каб не трапіць пад «гарачую руку». Што ж тычыцца сапраўдных мафіёзі, то, як папярэджвае МУС, з імі бязлітасная вайна будзе весціся без «перапынку на абед». За мінулы тыдзень яны сапраўды панеслі некаторыя страты: напрыклад, у Вілейскім раёне была схоплена банда аўтарэкеціраў, а ў Оршы міліцыянты «прыхлопнулі» цэлае схованішча зброі, якую прыпаслі мясцовыя рэцыдывісты. Увогуле, як паведамляе МУС, аж 304 асобы, якія знаходзіліся ў вышуку, былі затрыманыя за гэтыя восем дзён, прычым многіх прыхапілі са зброяй.

Аднак усё гэта калі і не дробная «рыба», але яўна не на яе палявалі ў сувязі з магілёўскай трагедыяй. Таму, хутчэй за ўсё праз два дні, калі на стол прэзідэнту ляжа папера аб выніках расследавання справы па забойстве Яўгена Мікалуцкага, у графе «схоплена забойцаў» будзе стаяць прочырк. Таму — дагэш новы «ўзмоцнены рэжым»! Калі?

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Семінарыстаў цяжка пракарміць

*Кіраўніцтва духоўнай семінарыі, якая знаходзіцца ў Жыровічах, мае надзённую праблему: як пракарміць сваіх навучэнцаў*

Сёлета іх было прынята на вучобу на 50 больш, чым звычайна. Семінарыя мае падсобную гаспадарку, але яна невялікая. Епіскап Навагрудскі і Лідскі Гурый блаславіў зварот да кіраўнікоў камерцыйных структур і калгасаў, якіх просяць дапамагчы прадуктамі або грашыма на харчаванне семінарыстам.

**Мікола ВЯЛІЧКА**

## Упершыню апранулі сутану

**У Гродзенскай каталіцкай семінарыі адбылася штогадовая цырымонія першага апранання святарскіх шатаў.**

Навучэнцы атрымліваюць гэтае права толькі на трэцім курсе, калі пачынаюць вывучаць тэалагічныя навукі. Урачыстасць адбылася ў Бернардынскім касцёле. 20 клерыкаў першы раз у сваім жыцці апранулі святарскія шаты, якія асвяціў гродзенскі біскуп Аляксандр Кашкевіч.

**Алесь ВАЎЧОК**

# Шэдэўры «стабілізацыі»

У самых розных рэгіёнах Беларусі мясцовыя ўлады, адмаўляючы ў правядзенні акцыяў пратэсту, скарыстоўваюць стандартныя фармулёўкі. Найбольш папулярная з іх — «признать проведение акции нецелесообразным». Ясна, што для дыктатарскага рэжыму любы пратэст сапраўды з'яўляецца «немэтазгодным». Але адмовы вертыкальшчыкаў часам гучаць проста абсурдна.

Калі Павел Шарамет яшчэ знаходзіўся за кратамі, у г.Смаргонь Гродзенскай вобласці райвыканкам забараніў праводзіць пікет у падтрымку журналістаў ОРТ *«в связи с тем, что в отношении их возбуждено уголовное дело на законных основаниях, им предъявлено обвинение в незаконном пересечении государственной границы»*. Ясна, што любая ўлада ў любой краіне лічыць свае дзеянні законнымі і правільнымі — але для таго ва ўсім свеце і ладзяцца акцыі пратэсту, каб прадэманстраваць нязгоду з гэтым меркаваннем. Таму, калі б нават суд прызнаў журналістаў вінаватымі, з прававога пункту гледжання не было б падстаў забараняць пікет у іх абарону.

Далей — болей. Днямі ад намесніка старшыні Смаргонскага райвыканкама А.Апановіча прыйшла чарговая адмова мясцовым



СМАРГОНСКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ ГРОДЗЕНСКАЙ ВОБЛАСЦІ

СМОРГОНСКИЙ РАЙОННЫЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ ГРОДНЕНСКОЙ ОБЛАСТИ

231000, г. Смаргонь, вул. Леніна, 5 Тэл. 2-21-48, 2-16-16

231000, г. Сморгонь, ул. Ленина, 5 Тел. 2-21-48, 2-16-16

Ад 7.10.97 № 7-305

На № ____ ад ____

Дергачеву А.М.
Левицкому Е.Д.
г.Сморгонь, ул.Юбилейная, 9-20

Рассмотрев Ваше заявление на проведение пикета против ухудшения жизни народа, связанного с ростом цен, и принимая во внимание усилия местных органов государственной власти, направленные на стабилизацию улучшения социально-экономического положения населения города и района, районный исполнительный комитет признал проведение подобной акции в городе Сморгонь нецелесообразным.

Зам.председателя райисполкома А.А.Апанович

*Шэдэўр смаргонскіх чыноўнікаў.*

БНФаўцам, якія збіраліся наладзіць пікет супраць пагаршэння жыцця народа, звязанага з ростам цэнаў. Райвыканкам *«признал проведение подобной акции в городе Сморгонь нецелесообразным»* па вельмі цікавай прычыне: *«принимая во внимание усилия местных органов государственной власти, направленные на стабилизацию улучшения социально-экономического положения населения города и района»*.

Такім чынам, райвыканкам сам паставіў адзнаку «выдатна» сваёй уласнай дзейнасці. Сваю работу смаргонская «вертыкаль» ацаніла настолькі высока, што вырашыла заткнуць рот усім, хто гэтай ацэнкі не падзяляе і не заўважае *«стабилизации улучшения»*.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

# Дзе ж грошы, сабраныя на суботніку?

**Да гэтага часу невядома, якая сума была сабраная на суботніку, што праводзіўся ў красавіку і сродкі ад якога павінны былі пайсці на завяршэнне будаўніцтва Цэнтра радыяцыйнай медыцыны ў Гомелі.**

Па словах галоўнага ўрача цэнтра У.Вараб'я, установа мае свае рублёвы і валютны рахункі, але да кастрычніка заробленыя на суботніку грошы на іх не паступалі. Больш за тое, дакладную суму міністэрства фінансаў трымае ў сакрэце.

Нядаўна, пасля настойлівых напамінаў галоўнага ўрача, 33 мільярды рублёў нарэшце пералічылі, але з іх 23 мільярды адразу пайшло на выплату запазычанасці швейцарскай фірме *Smelt*. Астатнія 10 мільярдаў пайшлі на аплату бягучых выдаткаў нашым будаўнікам. Такім чынам, грошай на працяг будаўніцтва зноў няма. Тым часам узведзеныя толькі сцены аб'екта, асвоена ўсяго 17 мільёнаў долараў пры агульным каштарысе — 78 мільёнаў *USD*.

Атрымаўшы нарэшце плату за запазычанасць, фірма *Smelt* пагадзілася працягваць будаўніцтва. Вызначаны новы тэрмін заканчэння будоўлі —трэці квартал 1999 года. Медыкі гомельскага абласнога спецдыспансера вельмі спадзяюцца на гэта, бо ўмовы, у якіх яны працуюць сёння, яўна нездавальняючыя. Аднак грошай не хапае і няма гарантыі, што мінфін пералічыць патрэбныя сумы.

**Ядзвіга КОПАЦЬ**

# Сорас развітаўся, але Эміг пакуль застаўся

**Новы навучальны год пачаўся ў Мазырскім народным універсітэце, адзінай навучальнай установе з такім статусам у Гомельскай вобласці.**

Большасць яго слухачоў аддалі перавагу вывучэнню замежных моваў, асваенню камп'ютэрнай граматы і дэкаратыўна-прыкладному мастацтву. Народны універсітэт арганізаваны дзякуючы вядомаму на Мазыршчыне сваімі дабрачыннымі акцыямі Карлу Эмігу з ФРГ, які і цяпер дапамагае універсітэту грашамі. Знайшліся і мясцовыя спонсары — кіраўнікі прыватных фірмаў В.Чабанян і К.Карачка, а таксама раённы вузел электрасувязі. Памяшканне для заняткаў і пэўнае абсталяванне прадастаўляюць універсітэту мазырскія педінстытут і політэхнічны тэхнікум.

**Ядзвіга КОПАЦЬ**

# «Калгасныя генералы» ідуць у фермеры

**Былыя старшыні калгасаў імя Леніна і Карла Маркса Клічаўскага раёна Магілёўскай вобласці сталі фермерамі.**

Калгасы ў іх былі па сённяшніх мерках нармальныя, не горшыя і не лепшыя за іншыя. Але фермерства двум былым «калгасным генералам» падалося, відаць, больш выгадным і надзейным, чым праца там, дзе няма ні гаспадароў, ні перспектывы, а асабісты лёс залежыць ад «бацькі».

**Іван ЗАСАДА**

# Залатая жыла

*Салярку кралі прама з трубы*

Начальнік адной з нафтавых базаў Гомельскай вобласці кіраваў злачыннай групоўкай, якая на працягу некалькіх гадоў крала дызельнае паліва з трубаправода, што праходзіць па тэрыторыі вобласці. Зладзеі прадавалі паліва на камерцыйныя запраўкі і мелі з гэтага вялікія грошы. Групоўка была затрымана ў Ельскім раёне якраз у момант чарговага «пранікнення» ў трубу. Канфіскаваны не толькі неабходныя для гэтага прыстасаванні, але і зброя.

**А.Г.**

# Турэмнае пытанне

Супрацоўнікі камітэта па выкананні пакаранняў міністэрства ўнутраных справаў, ці, папросту кажучы, беларускія турэмшчыкі, услед за сваімі калегамі з Расіі чакаюць, што іх таксама перададуць міністэрству юстыцыі. Між тым, «хрэн за рэдзьку не саладзейшы» — так ацэньваюць гэтую перспектыву беларускія праваабарончыя арганізацыі.

## Дэмакратыя за калючым дротам?

Увогуле, праблематычна казаць пра магчымасці рэфармавання пенітэнцыярнай (г.зн. турэмнай) сістэмы ў краіне, якая паслядоўна набывае рысы велізарнага канцлагера. Маўляў, што дасць лібералізацыя парадкаў у турме, калі ва ўсёй дзяржаве ўводзіцца турэмны рэжым?

Улады павінны разважаць быццам бы наадварот: чым больш жорсткімі будуць умовы ўтрымання зняволеных, тым лягчэй утрымліваць сітуацыю «пад кантролем». І ўсё ж ад ідэі турэмнай рэформы ўлады не адмаўляюцца. Аб ёй заяўляе прэзідэнт Лукашэнка, а міністэрства ўнутраных справаў для рэалізацыі «планаў правадыра» супрацоўнічае нават з Хельсінкскім камітэтам і праводзіць міжнародную канферэнцыю па праблемах турэмнага рэфармавання. Праўда, на канферэнцыі высвятляецца, што беларускім турэмшчыкам «і хочацца, і колецца»: яны за рэформы, але не хацелі б выходзіць з-пад даху МУС пад дах міністэрства юстыцыі. Па прагнозах галоўнага беларускага турэмнага начальніка Уладзіміра Хамлюка, такое перападпарадкаванне будзе каштаваць 1,5 мільярда рублёў грашовых стратаў і вялікага працэнта рапартаў аб звальненні (у тым ліку спадар Хамлюк не выключыў магчымасці і сваёй добраахвотнай адстаўкі). На яго думку, пачаць трэба з удасканалення заканадаўства, з унясення такіх зменаў у крымінальны кодэкс, каб за дробныя злачынствы часцей выкарыстоўваліся ўмоўныя пакаранні. Па словах Хамлюка, з сённяшніх 55 тысячаў арыштантаў у Беларусі амаль чвэрць сядзіць за дробныя злачынствы, якія ў Еўропе караюцца грашовым штрафам ды ўмоўным тэрмінам. *«Калі б гэты кантынгент не трапляў за краты, магчыма было б амаль вырашыць праблему перанаселенасці, якая цяпер складае 38%»*, — скардзяцца міліцыянты. Другой праблемай з шэрагу самых балючых яны называюць дэфіцыт падрыхтаваных кадраў. *«У маім камітэце аддзел па аператыўнай рабоце зусім не ўкамплектаваны. Як жа кантраляваць кантынгент?»* — здзіўляецца палкоўнік Уладзімір Хамлюк. Свае надзеі ён яўна звязвае не столькі з рэформай, колькі з прыходам чарговага выпуску міліцэйскай акадэміі, якая цяпер рыхтуе і турэмшчыкаў-прафесіяналаў. Аднак эксперты-праваабаронцы ставяць нашай пенітэнцыярнай сістэме зусім іншы дыягназ і прапануюць іншае выйсце.

## Далоў прафесійных «стукачоў»!

На думку адваката Надзеі Дударавай і яе калегаў з Беларускага Хельсінкскага камітэта, беларускія «зэкі» пакутуюць не столькі ад перанаселенасці ў камерах ці бараках, колькі ад парадкаў, якія свядома падтрымліваюцца ў турмах і калоніях аператыўнікамі. Падмуркам для гэтых парадкаў з'яўляецца сістэма даносаў, якую турэмная адміністрацыя свядома стварае і стымулюе. Зэкі «закладваюць» адзін аднаго, яны падзеленыя на групоўкі і касты, якія вядуць паміж сабой амаль што сапраўдную вайну. Адміністрацыя лічыць, што гэтак лягчэй падтрымліваць парадак за кратамі. Але адмоўным вынікам такога «парадку» з'яўляецца настрой варожасці, якім прасякнутае ўсё ўнутрытурэмнае жыццё. Адсюль — захопы заложнікаў, бунты, злачынствы ў турмах, спробы масавых уцёкаў.

*«Чалавек, якога пакаралі пазбаўленнем волі, не павінен таксама пазбаўляцца гонару, элементарных правоў, магчымасці адчуваць сябе членам грамадства,* — лічыць Надзея Дударава. — *Трэба дапамагчы зняволенаму часцей сустракацца з роднымі, клапаціцца аб сям'і, зарабляць грошы і жыць інтарэсамі грамадства. Тады ён вастрэй будзе адчуваць сваё пазбаўленне свабоды і пачне яе цаніць. Толькі разуменне гэтай каштоўнасці наступны раз уратуе яго ад новага злачынства».*

Але нашыя барацьбіты са злачыннасцю гэты пункт гледжання, канешне, лічаць ілюзіяй, самападманам і больш спадзяюцца на свае, перш за ўсё аператыўныя, метады. Аднак ужо існуюць краіны, чый вопыт сведчыць, што лібералізацыя турэмных парадкаў — зусім не разбурэнне пенітэнцыярнай сістэмы.

## Галава прафесара Мачадлоўскага

У Польшчы ўжо правялі турэмную рэформу, якая цалкам змяніла парадкі ў месцах зняволення. Рэформа пачалася з вывядзення турэмнай службы з падпарадкавання паліцыі ў асобнае ведамства. Узначаліў яго прафесар Мадчалоўскі, які разам з групай цывільных дарадцаў хутка і карэнным чынам рэфармаваў турэмныя парадкі.

Прафесар пераканаў улады адмовіцца ад лагернага ўтрымання зняволеных на карысць турэмнага, але з абавязковым раздзяленнем вялікіх камераў на дробныя. У выніку зараз у польскіх камерах сядзяць не больш за 5 чалавек. Праўда, прыйшлося павялічыць колькасць турмаў, яны сталі драбнейшыя, ёсць нават усяго на 50 чалавек. Канешне, быў лібералізаваны рэжым утрымання і нават уведзеная сістэма пенітэнцыярных судоў, якія разглядаюць унутрытурэмныя злачынствы. Але галоўнае — прафесар Мачадлоўскі настаяў на адмове ў паслугах «стукачоў», а пасады аператыўнікаў у турмах былі ліквідаваныя.



*У беларускіх турмах сёння сядзяць 55 тысяч чалавек.*

Як сцвярджае Міраслаў Новак, адказны супрацоўнік Польскай турэмнай службы, за мінулыя два гады ў іх удвая скарацілася колькасць бунтаў, захопаў заложнікаў, унутрытурэмных разборак ды іншых інцыдэнтаў. Аказалася, што і без спецыялістаў, якія добра ведаюць, як «раздзяляць і панаваць», магчыма ўтрымліваць парадак у турмах.

## Колькі ж каштуе несвабода?

Тут мы падышлі да пытання, якое, здаецца, перад сабой нават не ставяць нашыя ўлады. Што ў рэшце рэшт танней для грамадства: танная пенітэнцыярная сістэма, у якой цана «зэка» вымяраецца цаной спажывецкага кошыка, альбо дарагая, з рознымі дэмакратычнымі «прыбамбасамі» кшталту паслугаў псіхолагаў і г.д. У нямецкіх турмах, паведаміў на канферэнцыі нямецкі эксперт Марцін Кёлер, існуе вялікая праблема ўжывання наркотыкаў. З гэтай праблемай вядзецца барацьба, але пераважна намаганнямі псіхолагаў, выхавацеляў, прадстаўнікоў розных грамадскіх арганізацыяў, якія часта наведваюць турму. *«А ці не лягчэй спыніць доступ наркотыкаў нашымі метадамі? Гэта ж куды эфектыўней!»* — ажывіліся беларускія турэмшчыкі. *«Калі вы хочаце цалкам кантраляваць абарот наркотыкаў, прыйдзецца зусім закрыць турму ад наведвальнікаў. Але тады маральная рэабілітацыя вязняў спыніцца. Выбірайце»*, — адказаў нямецкі эксперт. У яго, як бачым, не было нават сумневу, што карысць ад дэмакратычнага абыходжання з арыштантамі большая за страты ад таго, што хтосьці з іх выкарыстае вольнасці, каб «укалоцца». Адзначым з сумам, што наш выбар пакуль іншы. У нас лічыцца, што чым менш сувязяў у арыштанта з воляй, тым меншыя страты панясе грамадства. Але ў рэшце рэшт чалавек, якога цалкам адрэзалі ад свету, да яго калі-небудзь вернецца і пачне наводзіць на волі парадкі, якімі ён жыў у турме, бо іншых ужо не памятае. Вось гэта і будзе сапраўдная цана, якую мы заплацім за ягоную сённяшнюю несвабоду.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Статкевічу пагражае канфіскацыя

**У мінулы панядзелак у кватэры старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі Мікалая Статкевіча раздаўся званок.**

14-гадовая дачка, якая адна знаходзілася дома, не зірнуўшы ў вочка, адчыніла дзверы. На парозе стаялі тры мужчыны. Галоўны з іх, судовы выканаўца Першамайскага суда г.Мінска А.Каратkевіч, заявіў, што прыйшоў апісваць маёмасць. Калі ж малалетняя дачка сказала, што таты і мамы няма дома, дзядзькі яе адштурхнулі і прыступілі да выканання задання. Слёзы дзяўчынкі для іх нічога не значылі. Пры гэтым судовы выканаўца і панятыя, прывезеныя ім, напісалі ў акце, што вопіс маёмасці праводзіўся ў прысутнасці гаспадара. Між тым, Статкевіч вярнуўся дадому, калі акцыя ўжо была скончана.

Нагадаем, што 8 верасня суд Савецкага раёна г.Мінска аштрафаваў Мікалая Статкевіча на 30 млн. рублёў за тое, што ён 27 ліпеня, у Дзень Незалежнасці, узначаліў калону дэманстрантаў і правёў яе па праезнай частцы праспекта Скарыны.

Звычайна штраф вылічваюць з заробку або пенсіі. У выпадку са Статкевічам улады вырашылі адразу пазбавіць яго і ягонную сям'ю маёмасці. Гэта засведчыў і судовы выканаўца. Ён цвёрда паабяцаў, што апісаная маёмасць будзе праз тыдзень канфіскаваная. Пад вечар таго ж дня жонка Статкевіча дастала з паштовай скрынкі папярэджанне Першамайскага суда. У ім гаворыцца, што калі да 17 кастрычніка штраф не будзе сплачаны, 20-га адбудзецца канфіскацыя маёмасці.

Б.П.

## Нападение на представителя Хельсинкского комитета

В понедельник, 13 октября, около 13 часов руководитель службы наблюдателей Белорусского Хельсинкского комитета, 21-летняя студентка Европейского гуманитарного университета Надежда Н., вышла из канцелярии Ленинского суда Минска, где она пыталась получить сведения о судах над участниками акции 12 октября. Возле канцелярии суда Ленинского района высокий широкоплечий мужчина в кожаной куртке, узнав, что Надежда является наблюдателем БХК, сообщил, что на улице стоят милицейские машины с задержанными. На улице Ленина, метрах в 10 от здания суда, стояли два белых «Опеля», один из которых был с милицейскими номерами. Из второго «Опеля» вышли двое мужчин в кожаных коричневых куртках, схватили девушку за руки, ударили в живот и повели в близлежащий двор, угрожая ножом. Во дворе они обыскали сумку, забрали удостоверение БХК и пригрозили расправой, если она будет присутствовать на массовых акциях и судах. На вопрос Надежды, с кем она имеет дело, один из них ответил: *«Молодые патриоты Белоруссии»* и добавил: *«Твое лицо мелькает на всех видеопленках»*. Затем оба сели в автомобиль и уехали.

Нападение на наблюдателя БХК мы расцениваем как начало преследования правозащитных организаций Беларуси. Мы обращаемся к государственным органам, общественным организациям помочь нам в проведении правозащитной деятельности. Преследование активистов правозащитного движения имеет целью сокрытие правды о нарушениях прав человека в Беларуси.

*Пресс-служба Белорусского Хельсинкского комитета*

# Гавораць пра аб'яднанне і разбягаюцца ва ўсе бакі




*Толькі Беларусь жыве ілюзіямі.*

На словах А. Лукашэнкі, якія ён выказаў у сваёй нядаўняй прамове перад вернымі яму дэпутатамі, адным з прыярытэтаў знешняй палітыкі Беларусі з'яўляецца лагічнае завяршэнне рэалізацыі стратэгіі Беларусі ў рамках СНД па развіцці інтэграцыйных працэсаў.

Пры гэтым былі названыя тры ўзроўні: эканамічны саюз дванаццаці дзяржаваў, па-другое, мытны, эканамічны і гуманітарны саюз чатырох — Беларусі, Расіі, Казахстана і Кыргызстана, а таксама максімальнае паглыбленне супрацоўніцтва Беларусі і Расіі ва ўсіх сферах.

Што такое «ўсе сферы» ці, прынамсі, «гуманітарны саюз» — нам дакладна невядома, думаем, што і нікому, апроч самога прэзідэнта. Таму засяродзім увагу на праблемах больш канкрэтных — эканамічных. Так, калі меркаваць па структуры беларуска-расійскага гандлю, то можна падумаць, што Расія стала сыравінным прыдаткам нашай краіны. Праўда, ці здолее Беларусь выкарыстаць гэту відавочную магчымасць для правядзення ў адносінах да Расіі каланіяльнай палітыкі, ёсць вялікі сумнеў. Нельга ж сказаць, што Расія фатальна залежыць ад паставак прамысловай прадукцыі або бульбы з Беларусі. А ў той меры, у якой залежыць, яна толькі кансервуе ўласную тэхналагічную адсталасць.

Тым не менш, мінстат пастаянна прыводзіць выгадныя для Беларусі і сумныя для Расіі паказчыкі. Не наступіла б галавакружэнне ў аднаго саюзніка, не з'явілася б маркота ў другога. Бо тады акажацца, што менавіта Беларусь фатальна залежыць ад Расіі. А з залежнымі не цырымоняцца.

Ды і з партнёрамі па СНД не ўсе так гладка, як інтэгратарам хацелася б. У якасці станоўчых вынікаў, напрыклад, прэзідэнт назваў павелічэнне тавараабароту з Азербайджанам, Кыргызстанам, Таджыкістанам, Туркменістанам і Украінай. Што тычыцца апошняй, то яна з'яўляецца не толькі другім па значэнні гандлёвым партнёрам Беларусі ў СНД, але і краінай, з якой мы маем другое па памерах адмоўнае сальда — каля 300 млн. долараў ЗША. А з астатнімі названымі Лукашэнкам краінамі мы гандлюем наступным чынам: імпартуем 0,5% ад усяго аб'ёму з СНД, экспартуем і таго меней — 0,45%.

Так што эканамічная вага гэтых партнёраў сёння амаль нулявая, а ў перспектыве яна яшчэ больш знізіцца. Бо на самой справе СНД не інтэгруецца вакол сваёй сталіцы ў Мінску, а наадварот — разбягаецца ў розныя бакі. Адбываецца гэта таму, што ў кіраўнікоў гэтых краінаў стае здаровага прагматызму, і яны не вельмі прыхільныя да міфу аб працвітанні ў савецкай імперыі. Нават такі савецкі (не белавежскі) зубр, як Гейдар Аліеў, разумее, што будзе лепш, калі грошы для здабычы нафты дасць Захад, а не Расія. А ў Беларусі ж, акрамя палітычнай шчырасці ды бульбы, калі ўродзіць, амаль нічога і няма.

Таму новыя незалежныя краіны пастаянна шукаюць саюзнікаў і партнёраў засёды і па прынцыпу: хто больш дасць грошай і за грошы. А схемы накшталт: вы нам бавоўну, а мы вам трактары — спрацоўваюць усё горш. Дарэчы, бартэрны гандаль — гэта натуральны біч краін трэцяга свету, бо ў іх няма тавараў, за выключэннем сыравіны ды экзатычнай садавіны-гародніны, якія б маглі зацікавіць багатых пакупнікоў. Гэткі гандаль пануе на бедным Поўдні, хоць зрэдку (у савецкія часы так плацілі за зброю сатэліты СССР, а не так даўно Філіпіны заплацілі за расійскія баявыя самалёты пальмавым маслам) бартэр устанаўліваецца ў адносінах паміж Поўначчу і Поўднем.

Могуць сказаць, што краіны СНД выказваюць ініцыятывы ў рамках Садружнасці. Але гэта толькі тады, калі няма другога выйсця.

Узяць, напрыклад, Казахстан. Літаральна за некалькі месяцаў бягучага года ён рэзка памяняў знешнегандлёвыя прыярытэты. Краіна скарачае тавараабарот унутры СНД і павялічвае кантакты з далёкім замежжам. Інакш кажучы, ад вымушанага гандлю па бартэры пераходзіць да цывілізаванага грашовага. Таму ўжо ў мінулым годзе ў агульным аб'ёме экспарту амаль 2/3 склалі пастаўкі за СКВ (у 1995 — 50%), а бартэрныя аперацыі скараціліся ўтрая і склалі толькі 7% знешнегандлёвых аперацый. Сёлета палепшаны і гэтыя паказчыкі.

Такія ж погляды на «інтэграцыю» маюць і іншыя. Таму знешнегандлёвы тавараабарот унутры СНД за першую палову гэтага года склаў 33 млрд. долараў і зменшыўся на 10%, а з «астатнім светам» — 64 млрд. і павялічыўся на 2%. І толькі 4 краіны (Кыргызстан, Малдова, Туркменістан і Беларусь) змушаныя большасць тавараў прадаваць і купляць унутры Садружнасці. Але ж толькі беларускае кіраўніцтва лічыць гэтую сітуацыю цалкам нармальнай.

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

# Беларускі студэнт у Германіі

Мне пашчасціла год вучыцца ў Германіі — у рамках праграмы абмену паміж БДУ і адным з нямецкіх універсітэтаў. Шчыра кажучы, калі хадзіў на падрыхтоўчыя курсы і пісаў кантрольны тэст, па выніках якога праводзіўся канчатковы адбор, — надзеі было няшмат. Ведаў, як многа вырашаюць у нас знаёмствы, патрэбныя сувязі і важкія тэлефонныя званкі. Тым большым было прыемнае здзіўленне, калі аказалася, што паехалі якраз тыя, хто сапраўды лепш за іншых ведаў нямецкую мову.

### Можа кожны

У прынцыпе, паехаць вучыцца ў Германію можа кожны беларус. Іншая рэч, што шмат часу і нерваў будзе каштаваць збор усіх неабходных папераў. (Дарэчы, нямецкі бюракратызм мала ў чым саступае нашаму.) Галоўным дакументам з'яўляецца атэстат аб агульнай сярэдняй адукацыі. Калі вы хочаце вучыцца ў нямецкім універсітэце адразу пасля заканчэння нашай школы, першы год знаходжання ў Нямеччыне давядзецца патраціць на тое, каб зноў здаць іспыты за школьны курс. Гэта неабходна, каб немцы пераканаліся: вашыя веды дастатковыя для вучобы ў Германіі.

Пужацца гэтай працэдуры не варта — наш узровень сярэдняй адукацыі зусім не самы нізкі. Калі вы паспелі ўжо нейкі час павучыцца ў беларускай ВНУ, вам не трэба нічога даказваць — можаце прыступаць да вучобы ў Германіі адразу. Вядома ж, у любым выпадку трэба здаць экзамен на валоданне нямецкай мовай.

Калі вы, нарэшце, сабралі ўсе неабходныя дакументы, не палянуйцеся размножыць іх і адправіць адразу ў некалькі універсітэтаў. Адрасы можна даведацца ў консульскім аддзеле нямецкай амбасады на вул.Старавіленскай або ў Інстытуце Гётэ, які месціцца ў Доме літаратара на Фрунзе, 5. Рэч у тым, што на самыя прэстыжныя спецыяльнасці (эканоміка, юрыспрудэнцыя) шмат якія ВНУ праводзяць абмежаваны набор, і вам можа папросту не хапіць месца. Так што лепш падстрахавацца. Калі універсітэт прышле вам паведамленне, што згодны прыняць на вучобу, — на падставе гэтага дакумента пасольства выдасць вам візу.

### Маркі і пфенігі

Узнікае лагічнае пытанне: «А як жа з грашыма?» Сама па сабе адукацыя ў Германіі бясплатная. Але грошы на жыццё патрэбныя. І грошы немалыя. Таму кожны універсітэт разам з іншымі дакументамі патрабуе доказы таго, што вы не будзеце стаяць на вуліцы з працягнутай рукой ці рабаваць багатых бюргераў. Такім доказам можа служыць альбо рахунак на вашае імя ў адным з нямецкіх банкаў, альбо папера, з якой вынікае, што нехта бярэцца фінансаваць вашае знаходжанне ў краіне.

Спонсарам можа быць хто заўгодна. Распаўсюджаны варыянт: выратавальную паперу з абавязацельствам рэгулярна пералічаць пэўную суму на ваш рахунак вам выдаюць у нейкай беларускай фірме, установе ці прадпрыемстве, а насамрэч вы зарабляеце грошы самі. Так, у Германіі існуе шэраг фондаў і дабрачынных арганізацый, якія пры пэўных умовах могуць прызначыць стыпендыю. Але ж ахвотных атрымаць тыя стыпендыі занадта многа, таму шанцаў на тое, што менавіта вам пашчасціць, няшмат. Лепш спадзявацца на свае сілы.

Для нармальнага жыцця спатрэбіцца каля 1.000 марак у месяц. Калі працаваць поўны рабочы дзень на канікулах і крыху падрабляць падчас вучобы — зарабіць такія грошы цалкам рэальна. Знайсці ў Германіі работу, якая не патрабуе спецыяльных прафесійных навыкаў, не так ужо і цяжка. Шмат дзе патрабуюцца прыбіральшчыкі, мыйшчыкі посуду і г.д. Працаваць лепш у заходніх землях, бо, па-першае, там працай знайсці работу, а па-другое — яна вышэй аплачваецца. Дарэчы, пры ўсіх універсітэтах існуюць службы занятасці, якія дапамагаюць студэнтам знайсці работу.

### Вучоба

Пра адрозненні тамтэйшага вучэбнага працэсу ад нашага можна гаварыць доўга. Спынюся на галоўным, на тым, што адразу кідаецца ў вочы: няма ніякіх раскладаў з наборам абавязковых прадметаў.

У нас, калі чалавек паступае ў ВНУ, ён не можа адхіліцца ад плана, распісанага на 5 гадоў наперад. Прадмет за прадметам, экзамен за экзаменам. У Германіі ж сутнасць у тым, што, каб атрымаць дыплом, трэба выканаць пэўны аб'ём работы: напісаць вызначаныя працы, здаць экзамены... Прыкладна тое ж, што і ў нас, але — за практычна неабмежаваны адрэзак часу. Калі ёсць жаданне здаваць па адным іспыце ў сесію — калі ласка, вашая справа. Проста вучоба ў такім выпадку расцягнецца не на восем ці дзесяць семестраў, а на ўсе дваццаць пяць.

### Адпачынак

Але ж студэнцкае жыццё ва ўсіх краінах складаецца не толькі з чытання падручнікаў, наведання чытальных залаў ды перадсесійных хваляванняў. Як цікава пагутарыць са сваімі аднагодкамі з розных куткоў свету! У нашай інтэрнацыянальнай групе была прадстаўлена ўся Еўропа, былі студэнты з Амерыкі, Японіі. Пра Беларусь мала хто чуў. Калі гаворыш, адкуль прыехаў, амаль усе пытаюцца: «А дзе гэта?» Выключэннем былі студэнты з краін былога СССР ды палякі. Астатнім даводзілася тлумачыць, што Беларусь знаходзіцца не ў Афрыцы ды Антарктыдзе, а ў Еўропе. Даводзілася бачыць шчыра здзіўленыя твары... Адзін хлопец са Злучаных Штатаў расказваў, што многія ягоныя амерыканскія сябры да апошняга часу былі ўпэўненыя, што Чэхія і Польшча ўваходзяць у склад Расіі.

Затое як многа даюць размовы ў нефармальнай абстаноўцы! Гэта нешта большае, чым проста абмен інфармацыяй. Дый варыянтаў арганізацыі вольнага часу ў Нямеччыне больш, чым у нас. Галоўнае месца сустрэч — студэнцкія клубы. Гэта тое, аналагаў чаму ў нас, на жаль, няма. Як правіла, гэта ўтульна абсталяваныя падвалы. Уваход або бясплатны, або за чыста сімвалічны кошт. Грае музыка, можна патанчыць. Ці проста пасядзець, пагаманіць з сябрамі. Ежа і напоі каштуюць значна танней, чым на дыскатэцы «для дарослых». Ніякіх п'яных боек, «высвятлення адносінаў» ці проста хамства.

### Паспрабуй

Безумоўна, не трэба думаць, што Германія — ідэальная краіна, якая гарантуе кожнаму райскае жыццё. Там хапае сваіх праблемаў, звязаных галоўным чынам з аб'яднаннем заходніх і ўсходніх земляў. Але тое, што гэта краіна вартая, каб яе наведаць, — бясспрэчна. Чаму б не паспрабаваць?..

**Ігар АНДРЭЙЧАНКА**

# Сляпы чалавек можа ўсё

*Калі яго навучыць і дапамагчы яму знайсці месца ў жыцці*

Сёння ў нашай краіне існуе 7 спецыялізаваных школ-інтэрнатаў для дзяцей з рознай ступенню парушэннаў зроку. У іх вучыцца каля 1.100 чалавек. Напрыканцы мінулага тыдня ў Мінску прайшла міжнародная канферэнцыя, дзе абмяркоўваліся праблемы невідушчых.

### Школа

Неабходна рэфармаваць школу такім чынам, каб дзеці атрымлівалі не толькі добрыя веды, але і былі падрыхтаваныя іх самастойна выкарыстоўваць, ледзь не ў адзін голас гаварылі на канферэнцыі. «*У нас цяпер назіраецца кепская тэндэнцыя: дзеці растуць інвалідамі і са школаў выходзяць упэўненыя ў тым, што ім усе павінны,* — кажа старшыня праўлення БелТІЗ (Беларускага таварыства інвалідаў па зроку) Анатоль Нятылькін. — *І кроку самастойна не могуць зрабіць*».

Сляпым трэба даць магчымасць атрымліваць вышэйшую, сярэднюю спецыяльную адукацыю, — гучала на канферэнцыі. Няхай сляпыя «*займаюцца інтэлектуальнай працай. Гэта і лягчэй для іх, і выгадней для дзяржавы*». Яно правільна, але ж як гэта зрабіць?

Міністр адукацыі краіны В.Стражаў паведаміў, што ў міністэрстве разглядаецца прапанова, каб сляпых дзяцей і дзяцей з аслабленым зрокам інтэграваць у агульнаадукацыйную школу. «*Чаго не патрэбна рабіць — дык менавіта гэтага*», — рашуча запярэчыў Стражаву Нятылькін. Так робіцца на Захадзе, але такія метады не падыходзяць да нашай рэчаіснасці: «*Калі браць заходнюю мадэль, то трэба беларускім сляпым таксама даць магчымасць працаваць на камп'ютэры, са сканерам, прынтэрам. Інакш, акрамя агульнага цкавання, здзекаў з боку здаровых дзяцей, нічога не атрымаеш*».



*Абсалютна сляпыя атлеты выступаюць з дапамогай праваднікоў.*

«*Нельга вырашаць праблемы сляпых без саміх сляпых!*» — заклікаў А.Нятылькін. Сапраўды, на Захадзе ў распрацоўцы законаў, якія тычацца жыцця і дзейнасці сляпых, актыўны ўдзел бяруць самі інваліды па зроку. «*Хто ж лепш за нас ведае нашыя праблемы?*» — рытарычна пытаецца Нятылькін. Ён упэўнены, што «*навучанне ў Беларусі трэба арганізаваць па-іншаму: зусім сляпых — асобна, з парушэннямі зроку — асобна, каб яны разлічвалі толькі на сябе. Такім чынам яны і лепш рэабілітуюцца*». Дарэчы, А.Нятылькін мае надзею, што міністр адукацыі В.Стражаў перагледзіць свой падыход, «*ва ўсякім разе сляпыя на гэта спадзяюцца*». А.Нятылькін у сваіх прамовах таксама заўважыў, што «*становішча сляпых было б нашмат лепшае, калі б чыноўнікі ставіліся да іх больш паважліва, успрымалі за людзей*».

Пакуль што сляпыя разлічваюць перш за ўсё на сябе. У Беларусі паспяхова працуе 17 вытворча-вучэбных прадпрыемстваў. На іх працуюць каля 3,5 тысячы сляпых (і столькі ж відушчых), якія вырабляюць розныя тавары каля 800 найменняў. «*З еўрапейскай якасцю, але нашмат танней*», — кажа А.Нятылькін.

### На Захадзе

На Захадзе чалавека ацэньваюць не паводле інваліднасці, а па здольнасцях. «*Сляпыя за мяжой атрымліваюць пасаду ў залежнасці ад ведаў*», — кажа А.Нятылькін. Міністр адукацыі ў Англіі, напрыклад, сляпы, ходзіць з сабакам-праваднікам. У Італіі трэці год запар адна з найбольш перспектыўных прэтэндэнтак на званне «Міс Італія» — сляпая прыгажуня. «*Ёсць шмат іншых прыкладаў*, — кажа А.Нятылькін, — *але на Захадзе дзяржава спрыяе сляпым у адаптацыі, бо гэтым дзяржава дапамагае і сабе*».

У ЗША, аказваецца, ёсць рашэнне Кангрэса, што заказы на вытворчасць спартыўнай формы, аднаразовага посуду і шмат чаго іншага атрымліваюць у першую чаргу прадпрыемствы сляпых. У Польшчы па рашэнні міністэрства здароўя прафесія масажыста — прыярытэтная для сляпых. У Германіі працуе больш за 1.000 сляпых юрыстаў, 3,5 тысячы тэлефаністаў. «*Няма ніводнага ўрада ў Заходняй Еўропе, Амерыцы, Канадзе, каб у іх не было сляпых супрацоўнікаў*», — кажа А.Нятылькін. Яны могуць рабіць усё, што заўгодна, і ў «інтэлектуальных прафесіях». Праўда, такая праца магчымая дзякуючы добрым тэхналогіям. За мяжой распаўсюджаныя камп'ютэры з сінтэзатарам мовы, сканеры з «брайлеўскім радком» (кропкавым шрыфтам, які ўспрымаецца навобмацак). Дзякуючы такім прыладам сляпы работнік у прынцыпе мае роўныя магчымасці з відушчым.

### Спорт

Усяго два гады таму ў Беларусі быў створаны паралімпійскі камітэт, але спартсмены ўжо паспелі паказаць выдатныя вынікі. З Атланты інваліды па зроку прывезлі 12 медалёў. На чэмпіянаце Еўропы па лёгкай атлетыцы і плаванні ў Італіі займелі 20 медалёў і адначасова ўстанавілі два сусветныя і адзін еўрапейскі рэкорд.

У гэтым годзе каманда БелТІЗа ўпершыню выступала на чэмпіянаце Еўропы па міні-футболе ў Барселоне, заняла трэцяе месца. «*А нас нават ніхто не браў у разлік*, — кажа адзін з вядомых спартсменаў-паралімпійцаў Алег Шэпель. — *Напэўна, меркавалі па гульнях «здаровай» беларускай зборнай*».

Дарэчы, у свеце ў футбол даўно ўжо гуляюць і абсалютна сляпыя людзі, толькі на варотах стаіць відушчы. У полі знаходзяцца гульцы, якія добра валодаюць тэхнікай і метадыкай гульні. Арыентавацца ім дапамагаюць спецыяльныя буцы са званочкамі і мяч з сігналам. Яны даволі хутка і прыгожа перасоўваюцца па полі і нават часта забіваюць у вароты відушчых варатароў.

### Вялікія сляпыя

Сляпыя філосафы і вучоныя былі ва ўсе часы. Напрыклад, у Антычнасці нам вядомыя **Дэмакрыт** з Абдэр (V—VI ст. да н.э.), філосаф-матэрыяліст, заснавальнік вучэння аб атамах; **Дыядот** (I ст. да н.э.) — вядомы філосаф, матэматык, музыкант і настаўнік Цыцэрона. А з імем сляпога **Гамэра** звязваюць напісанне сусветна вядомых «Іліяды» і «Адысеі».

А вось адметны прыклад новага часу — **Леанард Эйлер** (1707—1783) з Швейцарыі. Вядомы матэматык і фізік. Па запрашэнні Кацярыны II пераехаў у Расію. У 1766 г. аслеп. Да слепаты напісаў 297 навуковых прац, калі аслеп — прадыктаваў яшчэ 459 новых прац. Быў распрацоўшчыкам дыферэнцыяльнага і інтэгральнага лічэнняў, тэорыі лікаў і інш. Акрамя матэматыкі, займаўся механікай і астраноміяй. З 1780 года — член Пецярбургскай акадэміі навук.

Цікавае жыццё было ў амерыканкі **Элен Келер** (нарадзілася ў 1880). Яна ў 2 гады страціла і зрок, і слых. З сямі год яна навучылася пісаць і чытаць па метадыцы Брайля. З 10 год пачала навучацца вуснай размове — навобмацак, вывучаючы і пераймаючы рухі вуснаў і горла. Праз тры тыдні яна ўжо размаўляла з роднымі. Потым паспяхова скончыла універсітэт, змест урокаў і лекцый ёй пісалі па руцэ. Гэтым жа шляхам «чытала» кнігі. Келер вывучыла французскую, нямецкую, лацінскую, грэчаскую мовы. Яна гаварыла так добра, што выступала з лекцыямі і дакладамі. Келер атрымала ступень доктара філасофіі.

Аўстрыец **Іосіф Вейленбек** (нар. у 1820) меў вялікі поспех на тэатральнай сцэне. Пасля таго, як страціў зрок, працягваў выступаць, прычым у галоўных ролях. Слепата не тое што не перашкаджала Вейленбеку на сцэне, але гледачы пра яе і не здагадваліся.

Шмат сярод невідушчых было музыкаў-салістаў, настройшчыкаў музычных інструментаў, былі скульптары, вынаходнікі і тэхнікі.

Сляпыя былі адміністратарамі, арганізатарамі, палкаводцамі, вядомымі грамадскімі дзеячамі.

Напрыклад, англічанін **Генры Фаўсет** (1833—1884) сляпым скончыў Кембрыджскі універсітэт. Ён вядомы як выдатны прамоўца, грамадскі дзеяч, выбіраўся ў парламент, у якім карыстаўся вялікім уплывам. Пасля ён нават стаў міністрам пошты і правёў шмат рэформаў у галіне сувязі.

А самы вядомы сляпы сярод сляпых — **Луі Брайль** (1809—1852). Ён аслеп у 3 гады, вучыўся, а потым і выкладаў у Парыжскім інстытуце сляпых. У 1825 закончыў распрацоўку прынятага ў цяперашні час амаль што ва ўсім свеце кропачнага шрыфту для сляпых і спецыяльных прыладаў для пісьма.

Сляпыя педагогі і прапагандысты, урачы і масажысты, стэнографы, наборшчыкі і карэктары, тэлефаністы і тэлеграфісты — усе гэтыя прафесіі ёсць у спісе «інтэлектуальнай працы», якую з поспехам могуць выконваць сляпыя.

**Аляксандр ВАСІЛЕЎСКІ**

# Пяцёра ірландцаў паплывуць вакол свету з праўдай Чарнобыля

**Чатыры браты і сястра Ковені з Ірландыі збіраюцца здзейсніць кругасветнае плаванне, каб прыцягнуць увагу ўсяго свету да наступстваў чарнобыльскай катастрофы і яе ахвяраў.**

Іхні карабель называецца «Залаты яблык». Сям'я Ковені працягвае традыцыю вікінгаў і выйдзе ў мора пад ветразямі — ніякага рухавіка, ніякага дыму. 20-месячнае падарожжа павінна пачацца ў канцы кастрычніка.

Прэм'ер-міністр Ірландыі Берці Ахерна звярнуўся з прывітальным словам да ўдзельнікаў акцыі, у якім выказаў спадзяванні, што мужны ўчынак братоў і сястры Ковені знойдзе падтрымку ў розных краінах, будзе дзейсным напамінам аб чарнобыльскай катастрофе як самай маштабнай ядзернай трагедыі, якую перажывае чалавецтва. На думку ірландскага прэм'ер-міністра, многія людзі адчуюць патрэбу аказаць дапамогу ахвярам Чарнобыля і найперш дзецям.

Гэта не першая «чарнобыльская» акцыя, якую праводзяць жыхары Ірландыі. Караваны дапамогі, што арганізоўваюцца па ініцыятыве вядомага палітычнага дзеяча Ірландскай Рэспублікі і кіраўніка грамадскай арганізацыі «Праект дапамогі дзецям Чарнобыля» Эдзі Роўча, штогод дастаўляюць у пацярпелыя раёны Беларусі медычныя прэпараты і абсталяванне, аўтамабілі «хуткай дапамогі», адзенне і цацкі для выхаванцаў дзіцячых дамоў і школаў-інтэрнатаў. Тысячы беларускіх дзяцей паправілі сваё здароўе за мяжой дзякуючы менавіта гэтай грамадскай арганізацыі. І цяпер працягваецца збор сродкаў па ўсёй Ірландыі, насельніцтва якой, нагадаем, складае трохі больш за 3 мільёны чалавек.

Паруснік «Залаты яблык» перадолее 26 тысяч міль воднага шляху. Грошы, сабраныя падчас гэтага падарожжа, будуць таксама накіраваныя на ажыццяўленне праграм дапамогі беларускім дзецям, якія пацярпелі ад Чарнобыля.

*БелаПАН*

СПОРТ

# Шумахер ці Вільнёў?

**«ФОРМУЛА-1»: ДУЭЛЬ ПРАЦЯГВАЕЦЦА**

Перадапошні этап чэмпіянату свету ў класе аўтагонак «Формула-1» мог стаць выніковым у вызначэнні чэмпіёна. Канадцу Жаку Вільнёву трэба было перамагчы ў Сузуцы (Японія), каб датэрмінова заваяваць тытул. Але Міхаэль Шумахер у які ўжо раз прадэманстраваў сапраўды чэмпіёнскую непадатлівасць. На паўтары секунды ён апярэдзіў Хайнца-Харальда Фрэнтцэна і на 26 — свайго таварыша па «Ферары» Эдзі Ірвіна. Вільнёў фінішаваў толькі 5-м. Цяпер яго 9-ачковая перавага над сапернікам растапілася да аднаго ачка. Уяўляеце, які будзе апошні этап?! А пакуль у Вільнёва («Уільямс»—«Рэно») — 79 ачкоў, у М.Шумахера — 78, у Фрэнтцэна — 41, у Алезі («Бенетон»—«Рэно») — 35, у Култхарда («Макларэн»—«Мерседэс») — 30, у Бергера («Бенетон»—«Рэно») — 24.

А вось Кубак канструктараў ужо разыграны — яго датэрмінова заваявала каманда «Уільямс»—«Рэно» (Вільнёў, Фрэнтцэн) — 120 балаў, «Ферары» (М.Шумахер, Ірвін) адстаюць на 20 пунктаў.

**ФУТБОЛ: ПУЦЁЎКІ І ВАКАНСІІ**

Закончыліся матчы адборачных турніраў чэмпіянату свету-98 у 9 еўрапейскіх групах. Іх пераможцы — зборныя Даніі, Англіі, Нарвегіі, Аўстрыі, Балгарыі, Іспаніі, Галандыі, Румыніі, Германіі — заваявалі пуцёўкі ў фінальную частку, якая пройдзе наступным летам у Францыі. Накіруецца туды і лепшая па лікавых паказчыках сярод занятых 2-е месца каманда Шатландыі. У стыкавых матчах вызначацца ўладальнікі яшчэ 4 вакансій. У выніку жараб'ёўкі вызначыліся наступныя пары прэтэндэнтаў: Расія—Італія, Украіна—Харватыя, Венгрыя—Югаславія, Ірландыя—Бельгія. Матчы адбудуцца 29 кастрычніка і 15 лістапада.

Завяршыліся і групавыя турніры маладзёжных зборных у рамках чэмпіянату Еўропы. Прайграўшы аднагодкам з Аўстрыі (0:2), беларуская «маладзёжка» заняла трэцяе месца ў групе.

**ХАКЕЙ: 50 ХЕТ-ТРЫКАЎ ГРЭТЦКІ**

«Нью-Йорк Рэйнджэрс» у матчы чэмпіянату *NHL* перамог «Ванкувер Кэнакс» — 6:3, прычым «лепшы хакеіст усіх часоў і народаў» 36-гадовы Уэйн Грэтцкі ўстанавіў чарговы рэкорд. Тры яго шайбы ў вароты ванкуверцаў сталі 50-м хет-трыкам легендарнага форварда, які зрабіў і двае выніковыя перадачы.

**САМБА: УНІВЕРСАЛЬНЫ БАГІРАЎ**

Прызёр чэмпіянату свету па дзюдо Націк Багіраў з Мінска стаў у грузінскай сталіцы чэмпіёнам свету па самба. У Юрыя Сенажацкага і Уладзіміра Емяльянава — бронзавыя медалі.

**ГАНДБОЛ: «ДРУЦЬ» — АПОШНЯЯ НАДЗЕЯ**

Пяць беларускіх клубаў з шасці вылецелі ў першым жа раўндзе еўракубкавых турніраў. Асабліва крыўдна за мінскі СКА. Нашыя хлопцы выйгралі дома ў югаслаўскай «Црвены звезды» — 32:24, а ў гасцях саступілі — 14:22. Югаславы прайшлі далей, так як пры аднолькавай розніцы забітых і прапушчаных закінулі на чужым полі на 10 мячоў больш, чым беларусы. Працягне выступленні ў Кубку гарадоў толькі жаночая каманда «Друць-Белпак» з Бялынічаў, двойчы выйграўшая ў літоўскай «Стыклас».

**ЗАГІНУЎ ЯРЫГІН**

Чэмпіён Алімпіяд-72, -76 па вольнай барацьбе, прэзідэнт Расійскай федэрацыі барацьбы Іван Ярыгін загінуў у аўтакатастрофе па дарозе з міжнароднага турніру ў Дагестане. Нядаўна Іван Сяргеевіч віншаваў у Мінску свайго сябра Аляксандра Мядзведзя з 60-годдзем. Ярыгіну было толькі 49...

**Сямён ПЛОЦ**



© СВАБОДА Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by СВАБОДА ў Internet: http:\\www.gis.minsk.by Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 90.000 (першы завод — 16.790)
Нумар падпісаны ў друк 14.10.97 (15:00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 215 Заказ 366